ISSN 0700-5172

*ВАЮЙ, НАРОДЗЕ, ЗА СВАЕ ПРАВЫ! – К.Каліноўскі*

ЗА ВОЛЮ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ



# ЗВАЖАЙ

Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Быўшых Беларускіх Вайскоўцаў

ZVAZAJ – Quarterly magazine, published by Liaison Comm. of Byelorussian War Veterans
*Address. K S B V, 57 Riverdale Ave. Toronto, Ont. M4K 1C2*
Год 5 Чэрвень, 1978 № 2 (10)

## НЭЎТРОННАЯ БОМБА

Апошнімі часамі шмат ґаманы нарабіла нэўтронная бомба. Пастанова прэзыдэнта Картэра адлажыць ейную прадукцыю, каб быццам мець козыр у руках пры перамовах з бальшавікамі пра кантролю атамнае зброі, выклікала розныя супярэчныя камэнтары. Як звычайна, маскоўскія прапагандовыя гарлапаны малююць цэлую сытуацыю на свой хвальшывы лад, а гэта з тае простае прычыны, што нэўтроннае бомбы, над якой амэрыканскія навукоўцы працавалі 20 гадоў, яны ня маюць і яе прадукцыя Амэрыканцамі магла-б перахіліць балянс атамных сілаў на карысьць Захаду.

Што-ж такое нэўтронная бомба? У вадрозьненьне ад атамнай і вадародных бомбаў, яна мае куды большую радыяцыю (гарачыню) і здольная на пэўнай прасторы (у радыюсе да кілямэтра) забіваць людзей ды ўсё жывое, ня шкодзячы будынкаў. Таму яна есьць ідэальная для ліквідацыі масавых танкавых ці пяхотных канцэнтрацыяў. Варшаўскі Пакт мае цяпер у цантральнай Эўропе 31 танкавую і 36 пяхотных дывізіяў, а Паўночна Атлянтычны Пакт (ПАП) усяго 11 танкавых і 18 пяхотных дывізіяў.

Каб мець поўны вобраз з кім ПАП мае эвэнтуальна змагацца, варта параўнаць выдаткі абодвух бакоў на прадукцыю зброі. Вось ад 1964 году савецкія выдаткі на зброю ўзрасьлі на 40% і кажны год павялічваюцца на 5% тымчасам як Амэрыканцы выдаюць цяпер на зброю 12% менш чымся ў 1964 годзе. Масква прадукуе цяпер сем разоў больш танкаў за Амэрыку, 5 разоў больш артылерыі й палову больш самалётаў. На вайну ў бальшавікоў працуе больш паловы зь іх дасьледных 850 000 навукоўцаў.



**Канфэрэнцыя раззбраеньня Аб'еднаных Нацыяў**

*Паводля "Нью Ёрк Таймс"*

Неўзабаве Масква мае пусьціць у прадукцыю чатыры новыя пакаленьні магутных міжкантынэнтальных балістычных ракетаў. Ані ЗША, ані ПАП і ня думаюць навет у гэтай галіне даганяць ці пераганяць Маскалёў.

Але калі Масква мае да дыспазыцыі магутныя сілы, дзякуючы якім, выкарыстоўваючы таксама сваіх кубінскіх наймітаў, здабылася на ваенную авантуру для калянізацыі Анголі, Этыёпіі й афрыканскага рогу, то яна ня мае нічога падобнага да нэўтроннай бомбы, незаменнай зброі для тактычных мэтаў абароны. Вось дзе прычыны вялікага абурэньня Брэжнёва, калі Амэрыканцы, як гэта ў вольнай краіне звычайна прынята, публічна пачалі разважаць пра патрэбу прадукцыі нэўтроннае бомбы.

Маскоўская лёгіка тут гэтаксама ясная й простая, як бальшавіцкая партыйная лінія: калі мы ня маем нэўтроннае бомбы то й вы ня маеце права яе прадукаваць.

Характэрна, што генэрал Аляксандар Гэйг, камандзер сілаў ПАПу, на сваей прэсавай канфэрэнцыі ў канцы сакавіка ў Пэнтагоне, выступіў за прадукцыю нэўтроннае бомбы.

Савецкія ваенныя агрэсіі ў Афрыцы, пры выкарыстаньні Кастравых наймітаў, працерлі вочы й іншым сябром ПАПу. Мяркуецца, што на працягу наступнага дзесяцігодзьдзя яны выдадуць звыш сто міліярдаў даляраў на прадукцыю зброі.

Неўзабаве прэзыдэнт Картэр і Кангрэс маюць пастанавіць адносна прадукцыі нэўтроннае бомбы. Але выбар тут здаецца, зусім ясны.

А фактычна ці мае Амэрыка які-небудзь выбар?

Яго ўжо даўно зрабіла Масква.



## ЛЯСЫ, БУНКЕРЫ, ПАРТЫЗАНЫ

*Нямецкая газэта "Марбургэр Прэссэ", пачынаючы з 26-га лістапада, 1949 г., у наступных дзесяці нумарох зьмясьціла нарыс пра "перажываньні нямецкага ваеннапалоннага ў СССР". Пра яго гаворыцца, што "пасьля сваіх, поўных прыгодаў, уцёкаў зь Сібіры, у пайднёвай частцы Ўсходніх Прусаў навязаў кантакты зь беларускімі, латыскімі, украінскімі й пазьней з польскімі партызанамі. Ягоная шматмесячная прыналежнасьць да паўстанскіх адзьдзелаў, ці раз розныя спэцыяльныя заданьні, даюць магчымасьць глыбей заглянуць у арганізацыю й сілу "нелегальных".*

*Нарыс Д.Гасмюлера у якім мова йдзе пра "Чорнага Ката" й "лягэндарнага Вітушку", мае для нас і гістарычную вартасьць. За добры пераклад зь нямецкае мовы вельмі дзякуем сп. С. Гоху.*

Рэдакцыя

Неба зьвісала цяжкімі бруднымі шматамі панад лягерам. Безнадзейнае сібірскае неба.

Я сядзеў у цёмным кутку бараку й скручваў у газэтнай паперы рэшткі махоркі. Увайшоў пісар зь лягернай управы. Стоячы ў дзьвярох, разглядаўся, шукаючы некага, а ўбачыўшы мяне, падыйшоў.

– Ты мусіш ісьці да каманданта, – сказаў.

Я зацягнуўся сьмярдзючым дымам свае цыгарэты, зь якое цешыўся ўжо дзьве гадзіны.

– А што такое? – спытаў я злосна.

– Ён напэўна сам табе скажа, – адказаў пісар.

Ён адразу прыняў службовы тон і пачуваў сябе вельмі важнай асобай.

– Ідыёт, – буркнуў я, асьцярожна згасіў сваю папяросу ды пайшоў за ім.

### Раблюся перакладчыкам.

Нейкі час пазьней сядзеў я зноў каля Рольфа Штогсака й намагаўся прыкурыць. Я даў яму крыху махоркі для ягонай люлькі. Гэта быў адзіны сябра з цэлага лягеру, зь якім я трымаўся блізка.

– Што было? – пытаўся Рольф.

– Маю стаць перакладчыкам, – адказаў я. – Ад заўтрага. Сяньня па абедзе пераношуся.

– Ну ты дабіўся, – сказаў Рольф. – Перакладчыкам быць – гэта добра. Лепшая ежа, лепшы барак. Толькі са звальненьнем дрэнна, бо ты цяпер спэцыяліст. Мы, іншыя хутчэй пападзем у чаргу.

Тады мы ўсе верылі ў абяцанкі.

Пасьля абеду я перабраўся. Вечарам камандант хацеў ведаць, ці я магу кіраваць аўтам. Я кіўнуў галавой. Усё-ж некалі быў лётнікам. Камандант задаволіўся маім адказам. Ён забраў мяне навет да штабу НКВД, куды яго перавялі. Месяцамі вазіў я яго ў трафейным Мэрцэдэсе засьнежанымі, абледзянелымі, гразкімі ці пыльнымі дарогамі. Восеняй, зімой і вясной я меў магчымасьць запазнацца з усімі лягерамі вакол Байкальскга мора й заўсёды і ўсюды людзі пыталіся: – Калі мы адгэтуль выйдзем?

### Мой прыяцель – ад'ютант

Цэлымі месяцамі я разважаў пра праблемы ўцёкаў. Веданьне мовы было адным з галоўных фактараў. Апроч таго апошнімі тыднямі я пазнаёміўся й бліжэй зыйшоўся з ад'ютантам шэфа, які браў удзел у здабыцьці Бэрліну, доўгі час станцыянаваў у Карльс - горст і таму, што "заразіўся" заходнімі ідэямі дык яго перавялі ў штаб НКВД у Сібіры. Гэта была лагодная кара, бо за такія правіны як адхіленьне ад партыйнай лініі проста за дротам ліквідавалі.

Гэты афіцэр быў запраўды задаволены, што знайшоў кагосьці, зь кім мог бязкарна гаварыць пра Нямеччыну. Яго ўспаміны найбольш канцэнтраваліся на асобе дзяўчыны, зь якой ён запазнаўся. Аднойчы навет паказаў мне яе здымку.

– Я разумею, што кажны хоча як найхутчэй папасьці дахаты, – казаў ён, не пазіраючы на мяне. Я ведаў, што знайшоў аднадумца.

### Запраўдныя паперы...

Цэлага паўгоду рыхтаваўся я да ўцёкаў. За цыгарэты вымяняў старое савецкае афіцэрскае абмундзіраваньне. Пару старых ботаў падараваў мне камандант, ня ведаючы якую яны маюць для мяне вартасьць. На падарожжа дамоў ад Байкальскага возера гэта быў толькі малы пачатак. Мне прыйшла думка, што я мушу прасіць ад'ютанта, каб выстараўся для мяне савецкія дакуманты. Гэта была вельмі рызыкоўная гульня як для яго так і для мяне. Я прадчуваў, што ён мяне ня здрадзіць. Але калі пападуся й пачнуць распытваць пра дакуманты, гэта пагражала яму карай сьмерці.

Калі мы ехалі палявымі дарогамі я ўсё-ж-такі сказаў ад'ютанту, нібы гаворачы да сябе: – Мне, каб выйсьці адгэтуль, трэба мець паперы. Добрыя паперы, на якіх шмат штэмпляў.

Ён зразумеў мяне адразу.

– Як-жа ты сабе гэта прадстаўляеш? Шмат якія перад табой спрабавалі, але заўсёды прападалі ў гэтых прасторах.

– Таму я й патрабую добрыя паперы, – адказаў я.

Ён усунуў мне ў зубы цыгарэту й сказаў: – Пра гэта пагаворым пазьней.

Тры тыдні пазьней я ўжо меў свае дакуманты. Яны былі выстаўлены на лейтананта Паўла Сяргеевіча Дзімітрава. На іх была мая выцьвілая здымка, пад якой я вывеў сваё прозьвішча. Апроч таго атрымаў пасьветку дэмабілізацыі і вайсковае права кіраваньня машынай; далей – пасьветкі на тры вайсковыя узнагароды "за храбрасьць". Кажны малы патруль мог гэтым

задаволіцца. З войска мяне звольнілі, а цывільная прафэсыя — сьлёсар. Знаходжуся ў дарозе на Менск, а адтуль пайду далей. Нарыхтаваў я й харчоў, пераважна сухароў, якія лёгка было несьці.

... і новы Мэрцэдэс...

Трэба было ўжо думаць пра падарожжа. Пасьля грунтоўнага рамонту, Мэрцэдэс трэба было аб'езьдзіць. Гэта была прычына. Камандант атрымаў дазвол на права язды ў акружнасьці 300 км па службовых справах. Я шмат разоў на ягоным "галубчыку" прыяжджаў у поўнач і ніхто мяне на затрымаў. Ня глядзячы на гэта,пасьветка была для мяне вельмі важнай і я цешыўся, калі яе дастаў.

Пасьля абеду я далажыў у штабе, што еду на спробную паездку, спакаваўся ды ўзяў яшчэ з сабой два каністры. Маленькі пакунак паклаў у багажнік. Пачка з дакумантамі знаходзілася на грудзёх, каля сэрца й гэта супакойвала мяне. Пры браме Іван падняў уверх "шлягбаўм". — Харашо, — адказаў я й націснуў на газ. Роўнамернае бурчэньне матору супакоіла мяне. На раздарожжы я спыніў машыну, закурыў цыгарку, выняў памятую мапу й зьвярнуў на пяшчаную палявую дарогу, кіруючыся на поўнач.

Шкада прыгожага аўта.

Ужо сьцямнелася, калі я выліў другі каністар гаручага ў бак, пакідаючы некалькі літраў у запасе. Ад таго часу ўважна сьлядзіў за паказьнікам на бінзінамэтры, а калі дайшло да нуля, спыніў аўта на абочыне дарогі. З багажніка выняў савецкі афіцэрскі мундзір і апрануў яго. З майго старога абмундзіраваньня выняў усё, што там было, навет вывярнуў кішэні, каб чаго не засталося. Добра, што мундзір меў шмат кішэняў, у якіх я мог разьмясьціць свае рэчы. Месца знайшлося на паперы, ежу, пару савецкіх рублёў і іншае. На гэтым скончылася. Рэшткі бінзіны выліў на шофэрава месца й кінуў запалку. Вакно было адкручана, каб даходзіла паветра і ў міг аўта стаяла ў полымі, а паскудны едкі дым грыз горла. Папраўдзе, шкада было прыгожае машыны, але нічога ня зробіш.

Розным спосабам празь Сібір.

Два дні йшоў я рознымі дарогамі і амаль ніколі ніводнага чалавека ня бачыў. Ноччу спаў пад адкрытым небам. На трэці дзень трапіў у невялікую вёску, дзе напаткаў вайсковую машыну. Здарылася магчымасьць хутчэй падацца далей. Абодва жаўнеры ахвотна пасунуліся, каб уступіць мне месца. Напэўна вырваліся без дазволу, а таварыш афіцэр мог пацікавіцца куды яны едуць. Калі я іх пачаставаў цыгарэтамі, адразу пасябравалі са мной. Ня кажны дзень бывала такое шчасьце. Я пасьля гэтага больш асьмеліўся й стараўся пры кажнай нагодзе чым больш вёрст пакінуць за сабой і гэта забірала бесканечныя тыдні, аж пакуль не дайшоў да аднэй мясцовасьці пад Уралам і тут ужо мне сьвет дошкамі забілі. Гэтта межавала Азія з Эўропай і без спэцыяльнага пропуску далей ісьці было нельга. Пра гэта казалі мне ўжо Татары, ў якіх я начаваў. Хаця меў я добрыя паперы, але войстрых кантроляў, допытаў і візытацыяў стараўся ўнікаць.

**Працую на чыгунцы.**

**Усьміхнулася мне шчасьце. У аднэй, перапоўненай** табачным дымам, карчме сустрэў я аднаго савецкага чыгуначніка. Ён прысеў да майго стала й нейкі час пільна мне прыглядаўся. Потым раптам спытаў:

— Станцыянуеш тут?

— Не, — адказаў я, — дэмабілізаваны.

— Але ты ня тутэйшы, — сьцьвердзіў ён.

Мне гэты допыт ня вельмі падабаўся. Што ён хоча, гэты чалавек? Я пачаставаў яго цыгарэтай.

— Не, — кажу, — я родам зь Менску.

Ён прыхільна ўсьміхнуўся, кажучы: — Я пазнаў гэта па тваей вымове.Я таксама быў ужо раз у Менску.

Я падумаў, што справа выглядае вельмі паскудна, але, на маё шчасьце, ён перарваў свае роспыты й здавалася, што быў задаволеным. Каб больш не закранаць гэтае тэмы, я сказаў яму, што мне бракуе грошы, каб далей ехаць чыгункай і што я з прафэсіі сьлёсар. Пры гэтым паказаў яму свае паперы. Відаць, што шмат штэмпляў зрабіла на яго вялікае ўражаньне а да гэтага я яшчэ сьлёсар. Дык ён аж зазьзяў, кажучы, што ў іхнай арцелі могуць мяне на працу прыняць.

— Я мушу перагаварыць зь інспэктарам, а ты заўтра прыхадзі да "кладовой".

Я ськінуў вайсковы мундзір і пераапрануўся ў адзежу чыгуначніка. Мой пратэктар пастараўся для мяне скромны пакойчык. Сем тыдняў рыхтаваўся я да другога этапу маіх ўцёкаў.

Змазчыкам праз Урал.

Узяўшы на ўвагу ўсе магчымасьці й ні зь кім не разьвітаўшыся, аднаго вечара я ўскочыў у апошні вагон даўгога таварнага цягніка, што кіраваўся на захад. Надзеўшы сьпяцоўку, я сядзеў зь вялікай змазьніцай у тормазнай будцы. Пакуль было цёмна, я ня меў ніякіх цяжкасьцяў, а калі цягнік затрымліваўся ўдзень то я выходзіў із змазьніцай і рабіў выгляд, што шмарую вагоны. Калі якісь чыгуначнік праходзіў міма, я як мага хутчэй уліваў аліву ў буксы.

Стой!

Бязь ніякіх перашкодаў пераехаў я праз Урал аж да Самары. Тут прамяняў я сваю чыгуначную сьпяцоўку на хлеб і масла й далей ужо ў савецкай уніформе праз Пэнзу, Маскву, Смаленск і Вільню дабраўся да Усходніх Прусаў. Гэта былі вельмі цяжкія тыдні. Падтрымоўвала толькі надзея, што з кажным днём даходжу бліжэй да радзімы. Калі дабраўся я да Аленштайну дык думаў, што небясьпека ўжо мінула. Якраз гэтта напаткаў я перашкоды, паход на захад аказаўся вельмі цяжкім. На былой польска-нямецкай мяжы канцэнтравалася вялікая маса войска. Пабачыўшы гэта, я наважыўся йсьці далей праз Польшчу. Бяз мапы й компасу йшоў я праз мазурскія лясы, мінаючы вёскі й вазёры із знаёмымі назовамі аж да тэй незабыўнай раніцы, калі ў адным ляску раптам спаткаў шэсьць узброеных людзей. Апранутыя яны былі ў розныя мундзіры, што адзін да аднаго не пасавалі. Іхныя аўтаматы трымалі мяне на прыцэле, так што пра супраціў і мовы не магло быць.

Чорнавалосы камандзер ступіў крок у мой бок і сказаў: — Стой!

Пачуўшы гэта зьненавіджанае слова, мяне быццам хто доўбняй па галаве зьехаў. Аўтаматычна падняў я рукі ўверх, разважаючы, што месячныя вандраваньні й уцёкі былі дарэмнымі. Двух мужчын узяло мяне між

сябе й перашукалі мае кішэні.

– Адвядзіце! – загадаў камандзер.

Чорнай хусткай завязалі мне вочы, ззаду моцным шнурком зьвязалі рукі. Калі з маіх вачэй зьнялі хустку то я стаяў у малой зямлянцы пры зьбітым з досак стале, на якім ляжалі мае паперы.

Допыт у зямлянцы.

Чорнавалосы камандзер перагледзіў мае паперы, а потым зьвярнуўся да мяне:

– Ты завешся Павал Сяргеевіч Дзімітраў і зьяўляешся звольненым лейтанантам Чырвонай Арміі? Нарадзіўся ты ў Вільні й цяпер у дарозе на Менск?

– Так, – адказаў я хутка.

– Што-ж ты скажаш, калі я ў цябе спытаю такое: чаму ты, па дарозе ў Менск, лазіш па мазурскіх балотах? Потым другое пытаньне: як доўга ты жыў у Вільні?

– Чатырнаццаць гадоў, – ілгаў я.

Чорнавалосы задумаўся на хвіліну, а пасьля загаварыў да мяне зусім незразумелай мовай. Я паціснуў плячмі. Тады шэф ускочыў і пачаў махаць пісталетам перад маім тварам.

– Ты хлусіш! – крычаў ён на мяне. – Ты савецкі правакатар! Калі ты чатырнаццаць гадоў жыў у Вільні, то хоць крыху мог-бы ведаць лятувіскую мову, прынамся зразумець што я пытаюся.

Я здаўся. Парасейску я сказаў яму, што я Немец і ўцёк з палону. Шэф паклікаў вартавога й даў яму кароткі загад. Той зьнік і ў хуткім часе вярнуўся ў суправодзе аднаго чалавека, у якім я адразу распазнаў нямецкага афіцэра. Я дагадаўся, што цяпер зноў пачнецца допыт, але я ўжо не баяўся. Я мусіў зноў расказваць пра сваю адысэю, гэтым разам панямецку. Ужо першыя словы майго апавяданьня даказалі маю нацыянальнасьць і мне дазволілі дагаварыць да канца. У міжчасе разьвязалі мне рукі й завялі, пад аховаю, ў суседнюю зямлянку, дзе я атрымаў цёплую страву, якой я ня еў цэлыя тыдні.

Нямецкі маёр мяне пазнаў.

Наступнае раніцы мяне зноў выклікалі на допыты. Гэтым разам дапытваў мяне нямецкі маёр. Ён паказаўся мне знаёмым і запраўды выявілася, што абодва мы былі разам у лягеры ваеннапалонных. Ён уцёк адтуль, а мяне ў Сібір выслалі. Маёр прысутнічаў, калі мяне чорнавалосы шэф другі раз выклікаў.

– Ты ведаеш у чыіх руках ты знаходзішся?

Я кіўнуў галавою.

– Добра, дык тады не патрабую шмат выясьняць. Я раблю табе прапанову: на нашым баку ваке шмат Немцаў і зможам ужыць цябе перакладчыкам. Калі хочаш, можаш тут застацца. За гэта мы табе ў адпаведны момант дапаможам перайсьці за мяжу.

"Чорны Кот"

Гэта была нагода. Перадумаўшы ўсё, я прыйшоў да выснаву, што іншага выхаду няма. Мы паціснулі рукі й я стаўся сябрам арганізацыі. Гэта была самая простая хворма прыёму. Таму, што рытуалы розных групаў былі іншыя й розьніліся міжсобку. Прыкладна, Украінская Паўстанская Армія (УПА) мела спэцыяльную роту прысягі, да якое я быў прыдзелены зьвязным. Прысяга там адбывалася вельмі ўрачыста, у прысутнасьці сьвятара.

Паволі я прыжыўся, але доўгі час мусіў правесьці ў санітарным бункеры. Усё, што было асягнута вытрымаласьцю й сілай волі, цяпер прарвалася. Я пачуўся стомленым і хворым. Паволі пачынаў здаравець і пры гэтым меў магчымасьць прыглядзіцца да майго акружэньня.

Людзі, што мяне ўзялі ў палон, былі сябрамі групы "Чорны Кот". Належалі да беларускага партызанскага руху. Яны былі высланы із спэцыяльным заданьнем каб скантраляваць дарогі ў мазурскіх лясох таму, што гэтым шляхам яны атрымоўвалі зброю з Польшчы і пры гэтым кантралявалі цягнікі. Род тавараў і сіла аховы падаваліся праз радыё. Я сам быў сьветкай, калі ў адным савецкім цягніку везьлі хатнюю жывёлу з Мэкленбургу ў Крым. Фарпостамі "Чорнага Ката" былі пераважна працаўнікі калгасаў, што паклікаліся да большых акцыяў. Толькі малыя групы, да аднэй зь якіх належаў і я, былі ў лясох. Фінансава й харчова утрымоўвала іх галоўнач кватэра. Калі прыпадкова на час ня было даставаў, тады які-небудзь працуючы ў калгасе партызан забываўся на ноч зачыніць хлеў.

Пасьля трох тыдняў шэф выслаў мяне ў суправодзе двух падафіцэраў да галоўнае кватэры, якая часова знаходзілася ў Вільні.

Раніцай старое аўта ківалася па палявых дарогах у кірунку на ўсход. Некалькі дзён пазьней я быў у Вільні й апынуўся перад галоўным кіраўніком "Чорнага Ката," лягэндарным Вітушкам.

Кватэра знаходзілася ў лесе. Бункер абкружаны дротам зь вялікім электрычным напружаньнем.

Вітушка, сын вучыцеля й былы афіцэр Чырвонае Арміі, прыняў мяне ў аднэй скромнай "вільлі" ў прыгожым месцы. Прывёў мяне да яго ад'ютант. Сам Вітушка сядзеў за пісьмовым сталом, як дырэктар нейкага прадпрыемства, бязь ніякіх таямніцаў, якімі звычайна ўпрыгожваюць іншых партызанаў за зялезнай заслонай. Прывітаўшыся, ён сказаў:

– Я вельмі рады, што вы трапілі да нас. Назначаем вас кур'ерам і сувязным. Думаю, што на нуду ня будзе часу. Ён кіўнуў галавой і я мог ісьці.

Вось гэта быў Вітушка, за галаву якога Саветы вызначылі вялізарныя прэміі. Адвага, зь якой вёў ён свае справы, імпанавала мне.

Шэф меў слушнасьць, цьвердзячы, што на брак працы наракаць ня буду. Гэта было праўдай.

Будучы кур'ерам, я змог глыбей заглянуць у жыцьцё г.зв. "нялегальных" і быў змушаны зьмяніць, дый даволі грунтоўна, мае даўнейшыя погляды.

Самая думка, што партызаны сядзяць у тайных закутках і ў вельмі цяжкіх абставінах, аказалася зусім хвальшываю. Толькі тыя, якіх шукала палітычная паліцыя (*гэтта аўтар мае, відаць, наўвеце НКВД – Рэд.*) ці якіх чакала служба ў Чырвонай Арміі, хаваліся ў лясох і балотах. Іншыя-ж, як мірныя жыхары, займаліся працай, некаторыя мелі навет вядучыя становішчы.

Гэта сытуацыя навет і сяньня не зьмянілася. Бальшыня партызанаў вядзе двайное жыцьцё. Раз на год яны праходзяць вайсковую навуку. Бяруць водпускі ў сваіх установах, або пішуцца хворымі, каб выкраіць сабе тыдзень ці два й пазнаёміцца з новай зброяй, выбуховымі матар'яламі, спосабамі камунікацыі.

*(Працяг будзе)*

---

***ПАДТРЫМАЙ "ЗВАЖАЙ"!***

## ГАЛАСЫ

## З ТАГО СЬВЕТУ Й З ГЭТАГА





# KOMBATANT W AMERYCE

QUARTERLY of the Polish Veterans of World War II
G.P.O. Box 179, New York, N.Y. 10001

**Rok XXIII** **STYCZEŃ-MARZEC 1978** **Nr. 1 (86)**


# Wędrówka po ziemiach Wschodniej Rzeczypospolitej

**Józefa Mękarska**




**OD WYDAWCOW**

W wyniku ostatniej wojny i na podstawie układu jałtańskiego Rosja sowiecka zagarnęła wschodnie ziemie Polski — a całym naszym krajem, wraz z ziemiami odzyskanymi na zachodzie, rządzą komuniści.

Następstwem tego jest między innymi to, że i szkoła w kraju podaje fałszywy obraz historii i geografii polskiej. Ziemie leżące na wschód od Bugu i Sanu — aż do granic z roku 1939 uważane są jako niepolskie, a wkład ich do historii i kultury państwa polskiego jest celowo przemilczany.

Obowiązkiem emigracji jest pisać i rozpowszechniać wydawnictwa dotyczące całego kraju, którego rozbiór został dokonany. Wciąż jeszcze zbyt mało mamy wydawnictw poświęconych sprawie ziem wschodnich oraz ich znaczeniu w życiu państwa polskiego.

Wypełniając ten obowiazek, pragniemy dać najważniejsze wiadomości o tej części Polski.

Wydawcy oddają tę książkę o ziemiach wschodnich Rzeczypospolitej do rąk społeczeństwa polskiego—a przede wszystkim młodzieży — z myślą, aby ziemie te ukazać w ich pięknie i przybliżyć je sercom, którym są drogie.

**Stowarzyszenie Polskich Kombatantów**
**Zjednoczenie Polek na Emigracji**
**Związek Harcerstwa Polskiego**

ka, tworząc tzw. Wyżynę Nowogródzką. Pas wysokich pagórków, który ciągnie się od Wilna przez Oszmianę. aż poza granice Wileńszczyzny na wschodzie, nazwano Garbem albo Działem Oszmiańskim. Bardziej ku północy, w okolicy Święcian i Brasławia, wyniosłości te są już mniej znaczne

У зьмешчанай адбітцы польскага "Камбатанта ў Амэрыцы" нейкая пані Юзэфа Мэнкарска падае заклік Таварыства Польскіх Камбатантаў, Задзіночаньня Палячак на Эміграцыі й Згуртаваньня Польскага Скаўтынгу, у якім гаворыцца пра "ўсходнія землі Польшчы", г.зн. Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну, якія "заграбіла савецкая Расея".

Яно-ж і цэлую Польшчу "заграбіла" тая самая Расея, але там яна хітра насадзіла розных гамулак, герэкаў ды іншых квіслінгаў. Дык вось названыя арганізацыі заклікаюць эміграцыю, асабліва-ж моладзь, не забывацца пра "землі Ўсходняй Рэчыпаспалітай", пісаць пра іх, выдаваць пра іх спэцыяльныя кнігі й інш. А сама пані Мэнкарска пачынае "вандроўку" па згаданых землях апісаньнем Віленшчыны.

Палкоўнік Я.Гоўша, што даслаў нам гэты цікавы экспанат, зьвяртаецца да "беларускіх палітыкаў, вайскоўцаў і публіцыстаў": "Гэтыя імпэрыялістычныя хіжакі імкнуцца й надалей, каб паняволіць частку нашага народу й краю, таму я зварочваюся да Вас, і прашу даць належны адказ гэтым закасьцянелым ворагам нашай дзяржаўнасьці й тэрыторыяльнай цэласьці".

Запраўды, цяжка не падзяляць абурэньня палкоўніка Я. Гоўшы. Відаць, што сярод польскіх вэтэранаў, Палячак, скаўтаў і іншых яшчэ захавалася даволі элемэнту, які за апошніх трыццаць з гакам гадоў нічога не навучыўся й апэруе старымі "перадверасеньскімі" катэгорыямі "моцарствовасьці" й шавінізму. Нельга сказаць, што яны зусім стаяць на мёртвым панкце, бо, бачыце, ня зрокшыся "ўсходняй рэчыпаспалітай", фактычна зь вялізьненькім энтузіязмам далучылі да яе й "землі адзысканыя".

Але як маем на гэтыя польскія амбіцыі рэагаваць? Як-бы Беларусы на іх не злаваліся, Палякі не пераселяцца дзесь на нейкае адлюдзьдзе ў Бутан, а будуць прадаўжаць жыць над Віслай і таму, пры зьмене палітычнай сытуацыі ня выключаны між намі канфлікты.

Тымчасам-жа мусім трымаць на прыцэле ворага №1, г.зн. камуністычна-імпэрыялістычную Маскву й таму менш павінны цікавіць нас пані мэнкарскія, што гэтым разам, уваскрашаючы свае "моцарствовыя мжонкі", памагаюць агульнаму нашаму ворагу №1.

Нам трэба больш прыслухоўвацца да цьвярозых Палякаў, што разумна й кампрамісова падыходзяць да будучага вырашэньня беларуска-польскіх супярэчнасьцяў. Такія адказныя людзі ёсьць у паняволенай Польшчы й на эміграцыі.

Ніжэй зьмяшчаем адбітку з польскага часапісу "Культура", што выдаецца ў Парыжы, №7-8 за 1976 год, пункт 14-ы праграмнай дэклярацыі г.зв. Польскага Незалежніцкага Паразуменьня.

Вось што там гаворыцца:

"Не зьяўляемся суседзямі Расеі. Нашымі ўсходнімі суседзямі ёсьць Украіна, Беларусь, Лятува. З гэтымі краямі вяжа нас шмат стагодзьдзяў сужыцьця – больш ці менш згоднага, часта турбаванага лішняй экспансыўнасьцяй Палякаў, але дабравольнага – у рамах аднае дзяржавы: польскай Супольнасьці Народаў. Украінскі, беларускі, лятувіскі й латыскі народы ня ёсьць сяньня незалежнымі; іх прымусова ўлучылі ў Савецкі Саюз і яны падлягаюць больш строгаму, чымся мы, палітычнаму, ідэйнаму й рэлігійнаму парадку. Праводзіцца між іх нясупынная русыфікацыйная акцыя. Шматвяковая супольнасьць не дазваляе нам на гэта глядзець абыякава, ані з маўклівым спачуваньнем. Выказваем гарачую салідарнасьць і падтрымку імкненьня гэтых народаў да ўнезалежненьня ад расейскага насільля. Мусім іхныя імкненьні падтрымліваць у меру нашых собскіх магчымасьцяў.

Ня высоўваем у дачыненьні да нашых усходніх суседзяў тэрытарыяльных прэтэнсіяў, хоць страта Львова й Вільні, гарадоў адвечна зьвязаных з польскай культурай, ёсьць для нас і застанецца надта балючай. Дамагаемся аднак ад усіх урадаў, што будуць мець уладу на даўных тэрыторыях Рэчыпаспалітай – тэрыторыях, ад яе адарваных сілай вонкавых дэцызыяў, не пацьверджаных ніводным зь беспасярэдня зацікаўленых народаў – каб загарантавалі пражываючым на гэных землях Палякам роўныя

*(Заканчэньне на бачыне 7-й)*

103 POLSKIE POROZUMIENIE NIEPODLEGŁOŚCIOWE

14. Nie jesteśmy sąsiadami Rosji. Naszymi wschodnimi sąsiadami są Ukraina, Białoruś, Litwa. Z krajami tymi wiąże nas wielowiekowe współistnienie — bardziej lub mniej zgodne, nieraz zakłócane nadmierną ekspansywnością Polaków, ale dobrowolne — w ramach jednego państwa: polskiej Wspólnoty Narodów. Narody ukraiński, białoruski, litewski i łotewski nie są dziś niepodległe; zostały przemocą włączone do Związku Radzieckiego i są poddawane znacznie ostrzejszym, niż nasz, rygorom politycznym, ideowym i religijnym. Prowadzona jest względem nich nieustająca akcja rusyfikacyjna. Wielowiekowa wspólnota nie pozwala nam patrzeć na to obojętnie, ani z milczącym tylko współczuciem. Wyrażamy gorącą solidarność i poparcie dla dążności tych narodów do uniezależnienia się od rosyjskiej przemocy. Powinniśmy je w tych dążeniach popierać w miarę naszych własnych możliwości.

Nie wysuwamy wobec naszych wschodnich sąsiadów roszczeń terytorialnych, chociaż utrata Lwowa i Wilna, miast odwiecznie związanych z kulturą polską, jest dla nas i pozostanie ogromnie bolesna. Domagamy się natomiast od wszystkich rządów, jakie będą sprawować władzę na dawnych terytoriach Rzeczypospolitej — terytoriach oderwanych od niej mocą zewnętrznych decyzji, nie poddanych zatwierdzeniu żadnego z bezpośrednio zainteresowanych narodów — aby zagwarantowały zamieszkującym na tych ziemiach Polakom równe prawa i możność swobodnego zachowania języka i kultury narodowej. Domagamy się też, aby Polacy z Polski mieli możność nieskrępowanego dostępu do miejsc, związanych z historią naszego narodu i naszego niegdyś wspólnego państwa.

# ТЭРОР: ЦІ ХУТКА НАША ЧАРГА?

Ад Рэдакцыі: *У сувязі з ростам тэрарызму ў некаторых заходніх краінах, перадрукоўваем артыкул ведамага палітычнага амэрыканскага аналітыка Джэймса Бэрнгама, зьмешчаны ў часапісе "Нашнал Рэвю", за 9.6. 1978 г.*

Практычна ўсе абагульненьні адносна "тэрарыстаў" і "тэрарызму" ёсьць хвальшывымі. Перадусім, няма яснае, прынятае дэфініцыі "тэрарыста".

2. Есьць адно, часта чутае абагульненьне: тэрарызм паўстае ў народзе, дзе ўлада дыктатарскага ўраду не дае людзям мірных магчымасьцяў выказаць свае крыўды й нязгоды. Праўда, пад панаваньнем некаторых дыктатарскіх і аўтарытарных рэжымаў было даволі тэрарызму. Адылі, найбольш відны тэрарызм цяпер адбываецца ў Італіі, дзяржаве, дзе ўрад ня толькі ня можа нікому дыктаваць, але навет нармальна дзеяць. Актыўны, крывавы тэрарызм дзейнічае пад брытанскім, адным з найбольш дэмакратычных урадаў сьвету. Ад часу яе дэмакратызацыі, узрос і тэрарызм у Гішпаніі. Аднак, амаль зусім ня было тэрарызму ў нацыстоўскай Нямеччыне й зусім мала ў фашыстоўскай Італіі пасьля таго, як Мусаліні скансалідаваў уладу. Няма тэрарызму (апроч афіцыяльнага) ў камуністычных дзяржавах.

3. Калі ўлада ёсьць гістарычна й маральна аўтарытэтнай (няважна, ці яна аўтарытарная, ці не) ды законнай у вачох народу, выражае запраўдную волю людзей, тады ня будзе тэрарызму, за выняткам прынагодных акцыяў псіхотных адзінак. Але гэта ёсьць ня больш, чым таўталёгія. У сяньняшнім сьвеце ёсьць мала аўтарытэтных уладаў. Бальшыня краінаў ёсьць сьпелым полем для тэрарызму.

4. Тэрарыст, як і злачынца, ёсьць бясправўнікам; ён дзейнічае вонках і супраць права. Звычайны крыміналіст таксама можа быць тэрарыстам: зірніце на прафэсіянальных італьянскій хапуноў. Але крыміналіст, хоць ломіць закон, ён не адкідае яго. Ідэялягічны тэрарыст (з Бадэр-Майнгоф, Чырвонае Брыгады, Вэтармэн ці тыпу ІРА) запярэчвае важнасьць права й таму не глядзіць на сваю дзейнасьць як злачыны, а на сябе як на злачынцу. Уплывам свае ідэялёгіі ён пераконвае іншых, каб ацэньвалі яго не як злачынцу, а як змагара за свабоду, мучаніка й гэроя.

5. Шмат людзей уважае, што ідэялягічныя тэрарысты ёсьць здурэлыя. Калі, як Саветы, мы ня прымаем думкі, што антыграмадзкія паводзіны ёсьць хворма́й дурасьці, гэткая ацэнка ёсьць яшчэ адным хвальшывым абагульненьнем. Лекары праверылі шмат тэрарыстаў, злоўленых апошнімі гадамі й пацьвярджаюць ня толькі іх разумовае здароўе, але іхныя выдатныя здольнасьці, добрую матывацыю й самакантролю. Не-фашыстоўскія ідэялёгіі, прынятыя тэрарыстамі, ёсьць транс-нацыянальнымі. У спрыяльнай для тэрарыстаў эпосе, як цяпер, гэты транс-нацыяналізм вядзе да блізкіх міжнародных сувязяў і частых злучэньняў, як паўторна было прадэманстравана ў апэрацыях Чырвоных Брыгадаў, палестынскіх тэрарыстаў, японскае Чырвонае Арміі, нямецкае групы Бадэр-Майнгоф, паўдзённа-амэрыканскіх групаў і навет ІРА.

Сусьветны засяг.

7. Афіцыяльна маскоўскія камуністы выказаліся супраць "індывідуальнага тэрору". Гэта значыць, што яны трымаюць манаполь на тэрор у камуністычных нацыях і стараюцца накіроўваць і кантраляваць тэрор у іншых краінах. Добра ўжо ўдакумантаванай ёсьць тайная падтрымка камуністамі й КГБ шматлікіх тэрарыстычных арганізацыяў грашмі, зброяй і вышкаленьнем.

8. Тэрарысты добра навучыліся выкарыстоўваць для сваіх мэтаў масавыя сродкі сусьветнай камунікацыі. Калі-б сродкі масавай камунікацыі зусім ня згадвалі тэрарыстаў, яны-б сталіся малой нікчэмнасьцю.

9. Статыстыка паказвае, што на год адбываецца каля трох тысяч бамбёжак у ЗША, побач з рознага роду хапаньнем, браньнем заложнікаў, сотнямі выпадкаў распальваньня пажараў, што фактычна ёсьць тэрарызмам. Хоць шмат гэтае дзейнасьці ёсьць аматарскай гэта паказвае, што ёсьць важная крыніца, адкуль можна рэкрутаваць людзей у паважныя арганізацыі.

10. Тры факты паказваюць, што ў недалёкай будучыні ЗША станецца сцэнай важных тэрарыстычных актаў. Папершае, ЗША, як асяродак імпэрыялізму, карупцыі й эксплёатацыі ёсьць прынадным, вялізным і важным аб'ектам. Пасьпяховы напад у ЗША меў-бы важныя сусьветныя насьледкі й падняў-бы сусьветную тэрарыстычную афэнзыву на вышэйшую гістарычную фазу. Падругоае, дасканалая, шмат-маштабная й цудоўна скаардынаваная акцыя Чырвоных Брыгадаў у праекце Моро

*(Заканчэньне на бачыне 8-й)*

## ГАЛАСЫ З ТАГО СЬВЕТУ Й ГЭТАГА

*(Заканчэньне з бачыны 6-й)*

правы й магчымасьць свабоднага захаваньня мовы й народнай культуры. Дамагаемся таксама, каб Палякі з Польшчы мелі магчымасьць нязьвязанага доступу да месцаў, зьвязаных зь гісторыяй нашага народу й калісьці нашае супольнае дзяржавы."

Аўтары гэтай праграмнай дэкларацыі, што разглядаюць пытаньні палітычнай, эканамічнай, культурнай, юрыдычнай і рэлігійнай будучыні свае краіны, жывуць цяпер у Польшчы й "Культура", са зразумелых прычынаў, не падае іх прозьвішчаў, адно зазначае, што ўсе яны ў веку звыш 55 гадоў.

І ў паняволенай сяньня Польшчы, дзе дысыдэнцкі рух даволі сільны, і на эміграцыі ёсьць — нам гэта ведама, — і іншыя групы й адзінкі, погляды якіх на будучае спаўжыцьцё з усходнімі суседзямі супадаюць з думкамі, выказанымі аўтарамі гэтта зьмешчанай вытрымкі з дэкларацыі. Пералік іх ня ёсьць мэтай нашага артыкулу. Іх мы, Беларусы, павінны падтрымліваць, а аджыўшых шавіністаў, наводля паняў мэнкарскіх, вышэйзгаданых польскіх камбатантаў, Палячак ці скаўтаў мы павінны выкрываць і ганьбаваць, бо мы, гэтаксама як і празорлівыя Палякі, ведаем, што наша й нашых нашчадкаў будучыня ляжыць у плённым супрацоўніцтве й помачы адзін аднаму, а не ў разьні й спрэчках.

ўзмоцніла сьведамасьць тэрарыстаў і іх веру ў тое, што яны цяпер гатовы наладзіць удар у ЗША.

Мы на чарзе?

11. Патрэцяе, фактам ёсьць, што на працягу апошніх пяці гадоў ЗША размантоўвалі сваю арганізацыйную, легальную й ідэялягічную абарону супраць тэрарызму. Бяз вынятку, кажны, хто меў справу з тэрарыстамі, ведае, што такія формы тайных, зарганізаваных у ячэйкі, не-нацыяналістычных, абсалютна здысцыплінаваных арганізацыяў могуць быць пераможаныя адно контракцыямі, што перасякаюць тэрарыстычны сьвет: тайным наглядам, падслухоўваньнем тэлефонаў, праверкай пошты, кампютарнымі даведкамі міліёнаў асобаў у сьвеце, тайнымі сувязямі з контр-тэрарыстычнымі агенцыямі іншых народаў, даношчыкамі, інфільтрацыяй і навет у некаторых выпадках (як засьветчаць тыя, што мелі справу з тэрарыстамі), зьдзекамі й забойствам. Эфэктоўнае ўжыцьцё такіх мэтадаў стала немагчымым з тэй прычыны, што яны гвалцяць нармальны працэс, права на прыватнасьць, ды наагул дэмакратычныя правы. Гэта аднабаковае раззбраеньне антытэрарыстычных агенцыяў ЗША асягнула пункт, пасьля якога паважныя антытэрарыстычныя агенцыі (брытанскія, француцкія, ізраільскія, бэльгійскія й заходня-нямецкія) больш ужо навет не памогуць агенцыям ЗША ў змаганьні, што ў сваім маштабе ёсьць сусьветным.

12. Стварылася непазьбежная дылема. Калі тэрарызм так масава расьце, дзяржава ня можа сябе абараніць ад тэрарызму і ў гэты самы час поўнасьцю карыстацца правамі й прывілегіямі дэмакрацыі. Магчыма прыдзецца нам задумацца над гэтай дылемай, калі, праўдападобна хутчэй, чымся нам здаецца, нейкі сэнатар, губэрнатар, віцэ-прэзыдэнт, або адзін з Галоўнага Штабу будзе ўзнагароджаны роляй Моро ў паўтарэньні Чырвонымі Брыгадамі ведамага сцэнарыя.

## АФРЫКА

Паводля апошніх падлічэньняў, за апошнія два гады маскоўскія кубінскія найміты вымардавалі ў Анголі больш людзей, чымся ўсе каляніяльныя дзяржавы за ўсе часы каляніяльнага панаваньня ў Афрыцы.

*(з газэт)*




## ФОНД "ЗВАЖАЙ"

*Ад 3-га сакавіка да 25-га чэрвеня сёлета з падпіскі, ахвяраў і продажы на "Зважай" атрымана:*

*ЗБАМ, адзьдзел Ньюю Брансвік:*

П.Кажура – 10.00 дал. А.Субота – 10.00, Д.Фініскоў – 2.00, С.Гутырчык – 10.00, Б.Даніловіч – 10.00, М.Войтанка – 5.00, Ю.Азарка – 5.00, Сокал – 10.00, Я. Азарка – 10.00, В.Русак – 10.00, з продажы (С.Гутырчык) – 18.00.

*Разам 112 канад, даляраў.*

З продажы – 9.00, А. Качан – 12.75, Г.Паланевіч – 10.00, Ул.Набагез – 10.00, М.Кунцэвіч – 5.00, П.Бартуль – 5.00, Я.Бунчук – 10.64, Я Каваленка (продаж) – 19.21, М.Нікан – (продаж) – 14.58, Н.Грэбень – 16.15, Я.Весялкоўскі – 6.12, М.Баяроўскі – 39.80

Разам – 270.25 дал. канад.

*Усім ахвяраваўшым вялікае беларускае дзякуй!*

## ТРЫНАЦЦАТАЯ СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ

адбудзецца сёлета ў Тароньце

ў днях 2 – 4 верасьня.

Тэма Сустрэчы:

*"60 ГОД АД АБВЕШЧАНЬНЯ БНР. 60 ГОД ЗМАГАНЬНЯ БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ ЗА ЛЮДЗКІЯ Й НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ ПРАВЫ".*

*Галоўная Управа ЗБК* *Галоўная Управа БАЗА*

## *НЕАДКЛАДНАЕ ЗАДАНЬНЕ*

*Удзельнікам Трынаццатае Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі сёлета ў Тароньце прапануем зрабіць тое, што трэба было ўжо зрабіць гады тры ці больш назад. паклікаць да жыцьця камітэт абароны правоў Беларускага Народу й асобных Беларусаў. Гэткі камітэт цяпер назарэз патрэбны. Іншыя паняволеныя народы даўно памагаюць сваім гэроям-дысыдэнтам. А мы? Тут удзячнае поле дзейнасьці для нашага духавенства й сяброў парафіяў.*

Памажы, Божа!

ЦІ ЗЛАЖЫЎ ТЫ АХВЯРУ НА "ЗВАЖАЙ"?